ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 18 (1773) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 6 МАЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.




Пад сцягам Пагоні. Рэпартаж побач.

# ПОПЕЛ І ПАМЯЦЬ

ЗАНІ, 2 ЛЮТАГА 1946

Памяць ведае больш, чым слова можа сказаць. Памяць ведае больш, чым слова хоча сказаць. Памяць, не слова, хоча сказаць усё і не можа.

Тое, што ў словах.

**Успамінае М. К.:** Гэта было ў суботу, якраз выпалі польскія Грамніцы. У нас у хаце была я з сястрою, мама, малодшы брат Ёзік, тата драмалі на зэдліку каля печкі. На вячоркі прыйшлі дзве мае сяброўкі, адна прала на калаўротку, другая вязала на дротах. Старшы брат Уладзік забег у хату і кажа, што паляць Шпакі. Відаць зарыва і дым. І выбег. Мама кажуць, што трэба павыносіць з хаты, бо прыдуць і нас спаляць. Потым хтось грукнуў у дзверы, тата выйшлі і ў хату ўжо не вярнуліся. Потым стрэлілі ў акно, і згасла карбідоўка. Мы пападалі на падлогу. Я падняла галаву і бачу праз акно, што і наша вёска ўжо гарыць. Ідзі на гару і павынось што, кажа мне мама. Я пайшла і бачу з гарышча, што людзі пабітыя на вуліцы ляжаць. Бо на вуліцы ясна, як удзень, ад агню. Зыходжу і кажу маме. Мама ўзялі польскую ікону, была ў нас адна, і выйшлі на двор. Мы ўсе за ёю. Брат, я памятаю, паспеў захапіць з сабою школьны тарністар. Мы хадзілі ў школу ў Занях, вучыў нас найстарэйшы наш брат Янак, яго ў той час дома не было, бо старэйшыя хлопцы і мужчыны здаўна ўжо па хатах не начавалі. Хто дзе, у клуні, на вышках у хляве або і на грушы, абвязаўшыся вяроўкаю, каб не ўпасці, калі засне. Стаімо мы перад нашым домам, а яны ідуць вуліцай і заходзяць у наш панадворак. Адзін з іх узяў і прыставіў пісталет мне да галавы. „Polacy czy Białorusy?“ — пытаецца. „Panie, my Polacy, nie zabijajcie nas“, — кажуць мама. — „Jak pan nie wierzy, to niech zapyta u sąsiadki. Ona katoliczka“. Цераз вуліцу жылі католікі, нашы суседзі. Мама пабачылі, што суседка ...цкая стаіць перад домам, і падумала, што за нас заступіцца. Бо мы з імі жылі як адна сям'я, гэта я тут праўду, як на споведзі, кажу. Яны былі бедныя, а нашы мама былі шчырыя, спагадлівыя і памагалі ім, чым маглі. Адзін пайшоў пытацца, ці палякі мы. І тая ...цкая сказала, ведаеце, з такой пагардай ці то са злосцю: „Tak, tak, Polaki“. Ён вярнуўся і стрэліў з пісталета маме ў голаў. Я бачыла, як страшна пырснула кроў у мамы з галавы. Мама ўпалі каля хаты. Брат Ёзік кінуўся ўцякаць за хату, за ім стралялі, але не пацэлілі. Ён прасядзеў усю ноч у акопах за вёскай, вярнуўся на другі дзень, ужо на папялішча. А нас з сястрою і з тымі сяброўкамі запхнулі ў хату. Адзін з іх прынёс ад суседзяў акалот саломы, яны ім уваход у пограб закрывалі, бо дзвярэй не мелі, завалок яго на гару і запаліў. І потым пайшлі паліць далей. Мы думалі, што дзверы завязалі чым, каб нам не выйсці, і пазалазілі пад ложак. Але тут дым, кроквы трашчаць і пачынаюць падаць. Я вырвала акно, у нас яно было падвойнае, як на зіму, другую раму выпхнула на двор. Пад акном у нас была сажалка, тут на яе салома са страхі падае і гарыць. Вада гарыць. Хоць быў люты, то вада не замёрзла, бо тады якраз стаяла адліга. Няма як выскачыць, бо ўсюды агонь. Але вытрываць не можна, мы ўжо пачыналі задыхацца. Тады я ўзяла сястру на рукі, ёй было сем гадоў, а мне чатырнаццаць, і кінулася цераз полымя, цераз сенцы на двор. Дзверы не былі

(Працяг на стар. 4)

Карэспандэнцыя з Мінска

## У БССР СВЯТКУЮЦЬ ГАДАВІНУ БНР

Яшчэ год таму, калі ля тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску 25 сакавіка міліцыя „заграбла“ Сашу Пушкіна (маладога беларускага мастака, студэнта БДТМІ, ветэрана афганскай вайны) з транспарантам „Досыць сацыялістычнай, адродзім незалежную Беларусь“, а ўчынак юнака дружна асудзіла афіцыйная прэса, ніхто і падумаць не мог, што ўсяго праз дванаццаць месяцаў, 25 сакавіка 1990 года ў сталіцы Беларусі, на яе вуліцах ды праспектах адбудуцца без ніякіх эксцэсаў масавыя народныя гульні з нагоды 72-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР. Але так сталася.

Праўда, не ўсё было гладка і на гэты год. Калі вядомыя дзеячы беларускай культуры, сябры Сойму БНФ „Адраджэнне“ археолаг і народны дэпутат БССР Зянон Пазняк, мастак Алесь Марачкін ды фізік Юры Хадыка падалі ў Мінгарвыканком заяву на правядзенне мітынгу 25 сакавіка, ва ўсе „кампетэнтныя інстанцыі“ была разаслана службовая папера „тэрмінова разабрацца ў гістарычных падставах дня 25 сакавіка для БССР і даць абгрунтаваную адмову“.

З падставамі разабраліся, Беларускую Народную Рэспубліку назвалі нязбытай марай беларускіх буржуазных нацыяналістаў, таму мітынг забаранілі. Усе газеты, шмат гадзін тэлерадыёэфіру былі прысвечаны гутаркам пра БНР (і тое няблага пасля жалезнай заслоны маўчання, нібыта такога і не было зусім). Шкада, аднак, што не абыйшлося і без адкрытае хлусні, каб давесці, што БНР была толькі марай, а не рэчаіснасцю, маўляў, яе не прызнала ніводная дзяржава.

Хм! Хіба што ніводная з дзвюх імперый (Германскай ды Расейскай), у зоне чыіх інтарэсаў заўсёды была Беларусь, не прызналі незалежную БНР. Але ж нельга ігнараваць абмен БНР пасламі з Латвіяй, Турцыяй ды шэрагам іншых краін. А тым больш — перагаворы з Леніным у Маскве дэлегацыі БНР на чале з Антонам Луцкевічам.

(Працяг на стар. 6)

## На мяжы

— 6 —

# Калектывізацыя і пісьменнікі

Што рабіць? Мабыць, толькі арганізацыйна-палітычныя меры не дадуць пажаданых вынікаў. Няхай дапамогуць пісьменнікі, няхай згладзяць грэх, калі не свой, дык сваіх папярэднікаў, няхай пачнуць вялікую, па сутнасці маралізатарскую акцыю супраць культу ўбоства, супраць п'янства, супраць абыякавасці да зямлі. Тая ж вялікая дэмаралізацыя сяла, якая наступіла з прыходам калектывізацыі, у сур'ёзнай ступені была вынікам сталінскага злога слова. Калі слова магло зрабіць столькі зла, дык у стане яно зрабіць і добрае.

Выдатны беларускі перакладчык Я. Семяжон расказваў мне, што ў час адступлення савецкай арміі ён аказаўся ў кастрычніку 1941 года пад Масквой. „Затрымаліся мы ў аднаго калгасніка. Нягледзячы на тое, што быў якраз перыяд зборкі ўраджаю, у яго не было ні адной бульбіны, ні аднаго бурака, ні адной галоўкі капусты. Здзівіла гэта мяне вельмі тым болей, што перад хатай яго быў вялікі агарод, зарослы, зрэшты, бур'янам. Калі я спытаў калгасніка, чый гэта агарод, ён адказаў: „Мой!" Я асуджальна выказаўся аб яго падыходзе да справы, а калгаснік як ні вызверыцца: „На черта мне этот огород и его плоды! Моя дочка работала до войны в Москве, у нас была провиантовая карточка. Она всё привозила готовое".

Вось так! Да такога спусташэння дайшлі сялянскія душы. Быць можа, у беларускага селяніна гэты гнільны працэс не пайшоў так глыбока, бо пра што як пра што, а пра свой уласны палетак ён дбае, але зямельны нігілізм выступае ўсюды.

Калісьці я прачытаў дзіўны артыкул. Гаварылася ў ім, што ўласныя ўчасткі калгаснікаў, участкі, якія складаюць мізэрны працэнт у параўнанні з калгасным арэалам, даюць 40 працэнтаў прадукцыі мяса ва ўсім Савецкім Саюзе. Аўтар гэтага артыкула (мабыць, гадоў дзесяць таму назад гэта было) не рабіў ніякіх вывадаў і ніякіх прапаноў. А гэтыя ж прапановы проста аж просяцца на паперу. Значыць, адзінае збавенне — у прыватызацыі зямлі, значыць, некаханая, нічыя калгасная зямля не родзіць, а каханая ўласная пладаносіць. Але што зрабіць, каб калгаснік хацеў хацець уладаць уласнай зямлёй? Напэўна, працэс гэты нялёгкі і не кароткі, а роля пісьменнікаў ды публіцыстаў у ім вялікая. А тым часам што мы ў гэтай галіне бачым? Па сутнасці, не бачым нічога. Пісьменнікі, як драпежныя крукі, кінуліся ў трыццатыя гады на прыватную ўласнасць у вёсцы. Пісьменнікі, як анёлы, спявалі гімны ў гонар калектыўнай гаспадаркі. А сёння маўчаць. А ёсць, наколькі мне вядома, пэўная колькасць калгаснікаў, якія пераняли ад калгасаў зямлю, машыны, жывёлу і атрымліваюць добрыя вынікі ў гаспадаранні. Добрыя для сябе і дзяржавы. Бо вядома, што селянін, які гадуе 50 быкоў, сам іх не з'есць: прадасць дзяржаве. Чаму пісьменнікі набралі вады ў рот? Чаму не цікавяцца такімі гаспадарамі, не славяць іх, не папулярызуюць? Чаму ў часопісах няма пастаяннай рубрыкі, прысвечанай такім людзям? Няхай яны стануць героямі новых часоў. Еўропа вельмі хутка імчыцца наперад. Ні заходнюю прамысловасць, ні заходнюю сельскую гаспадарку не дагоніць сацыялістычная індустрыя і сацыялістычная сельская гаспадарка. Трэба мяняць коней. Праўда, ёсць у сацыялістычным лагеры факты, якія запярэчваюць маім вывадам. У Чэхаславакіі сярэдні ўраджай збожжа з калгаснага гектара 60 цэнтнераў, такі ж, як у фермерскай Даніі. Аднак мы, усходнія славяне, не чэхі. У нас не атрымліваецца.

Вярнуся да страшэннага ўнутранага ворага — алкагалізму. На працягу многіх гадоў СССР вёў вострую прапаганду, накіраваную супраць міжнароднага імперыялізму, галоўнага ворага сацыялізму. Тым часам сапраўдны і найбольш небяспечны ўнутраны імперыялізм, які называўся п'янствам, спакойна развіваўся і рос ва ўлонні СССР. Першы заўважыў гэта Гарбачоў і павёў з ім рашучую барацьбу, але вынікі былі мізэрныя. Адной пастановай нічога не вырашыш, патрэбна татальная і шматгадовая вайна, у якой пісьменнікі павінны быць галоўнакамандуючымі.

Я ведаю некалькіх беларускіх пісьменнікаў, якія былі алкаголікамі. Адзін з іх не апамятаўся, не паўстрымаўся і памёр. Шкада, быў выдатным літаратарам. А другі знайшоў у сабе сілу і кінуў піць. Жыве і многа піша. Сустракаў я і ў вёсцы людзей, якія кінулі піць. Адзін па прычыне здароўя, другі адумаўся, трэці пад уплывам Бібліі. Няхай іх мала, але яны ёсць. Але я іх не бачу ў беларускай літаратуры. А быць павінны. Хай пісьменнікі пішуць аб тых, хто пакахаў зноў зямлю, аб тых, хто з п'янства перайшоў у цвярозасць, аб тых, якія, кіруючыся сталінізмам, сталі нацыянальнымі рэнегатамі, а пад уплывам новых часоў, яны зноў беларускія сыны. Трэба іх славіць, бо ў іх наша сялянская і нацыянальная надзея. Маральнае адраджэнне народа сталася неабходнасцю. Або мы яго зробім і сустрэнемся з пашанай народаў, або не зробім і акажамся смеццем, якое ўтопчуць у зямлю чужацкія боты. Калісьці Бядуля напісаў, што перад беларусам тры дарогі: да Масквы, да Варшавы і да Сонца. Думаю, што сёння ўжо ведаем, якой дарогай трэба ісці. **Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**II з'езд незалежных прафсаюзаў „Салідарнасць"** праходзіў у Гданьску. Лідэрам „Салідарнасці" выбраны Лех Валэнса, які атрымаў 362 (77,5 прац.) галасоў.

**Беластоцкая „Салідарнасць"** звярнулася з заклікам і адкрыла рахунах, на які прымаюцца грашовыя ахвяраванні на дапамогу нацыянальнаму адраджэнню палякаў на Беларусі.

**З нагоды 45 гадавіны Пагаднення аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе паміж Польшчай і СССР** адбыўся ў савецкім пасольстве ў Варшаве ўрачысты прыём. Удзельнічалі ў ім прэзідэнт Войцех Ярузельскі і маршалак Сената Анджэй Стэльмахоўскі. Быў прысутны таксама старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі.

**На чыгуначнай станцыі Валілы** на Беласточчыне пры адной з чатырнаццаці цыстэрнаў, якімі перавозілі фосфар з СССР у ГДР, быў заўважаны выцек вады. Камісія сцвердзіла, што да забруджання асяроддзя фосфарам не дайшло. Пасля ліквідацыі няшчыльнасці і папаўненні дэфектнай цыстэрны вадой цягнік быў адпраўлены ў далейшую дарогу.

**У гадавіну катынскага злачынства ў** касцёлах Беластока адбыліся набажэнствы за замучаных і памёршых на „нялюдскай зямлі". У пракатэдральнай базыліцы была пасвячана копія абраза Маці Божай Казельскай.

**Абраз Маці Божай Казельскай наведаў праваслаўны сабор св. Мікалая ў Беластоку.** Акафіст адправілі многія святары пад кіраўніцтвам а. Серафіма Жалезняковіча, а пропаведзь сказаў а. Рыгор Місеюк. У час набажэнства за ахвяры тэрору НКУС была пасвячана ікона Маці Божай Казельскай, якая застанецца ў саборы. Віцэ-прэзідэнт Беластока Ян Бельскі адзначыў прыход св. Мікалая Залатым медалем Ахоўніка месца нацыянальнай памяці.

**Сяляне і іх арганізацыі пратэстуюць** супраць адсутнасці скупкі бульбы. У Варшаве дэманстранты скінулі бульбу з грузавікоў перад Міністэрствам сельскай гаспадаркі, Міністэрствам фінансаў і перад радыёкамітэтам.

**Закончылася рэгістрацыя кандыдатаў** на радных у тэрытарыяльныя рады. Кааліцыйны выбарчы камітэт у Беластоку, у склад якога ўваходзіць Беларускі выбарчы камітэт, выставіў 18 кандыдатаў да 50-асабовай беластоцкай рады.

**Беластоцкая гарадская рада нарадовая** на апошняй сесіі прыняла пастанову аб перайменаванні некаторых вуліц у горадзе. Такім чынам **наша рэдакцыя „пераехала" з** вуліцы Весялоўскага **на вуліцу Суражскую.**

## З друку

### ПРАГНОЗ

**Тое, што цяпер адбываецца ў вашай краіне (у СССР — рэд.), нагадвае мне сітуацыю ў Польшчы ў пачатку 80-х. Тры гады чакання і прамаруджванняў каштавалі народнай гаспадарцы гэтай краіны нечувана дорага — нацыянальны даход знізіўся на 22 працэнты. З якога боку ні глянь, тое, што здарылася там, лепш за ўсё характарызуецца змрочным словам „катастрофа". І я не бачу рашуча ніякіх указанняў на тое, што савецкай эканоміцы ўдасца пазбегнуць таго ж лёсу. Калі, вядома, ваша кіраўніцтва не ўсвядоміць, што час наўмер назаўсёды знік і патрэбны кардынальныя крокі па ўвядзенню рынку і ліквідацыі дэфіцытаў, гэта значыць збалансаванню попыту і прапановы.**

**Размова ідзе аб павышэнні рознічных цэн мінімум на 30—40 працэнтаў. Людзям трэба раз і назаўсёды растлумачыць: ці павышэнне цэн з наступнай стабілізацыяй эканомікі, ці абавязковы крызіс, ды такі, які пакуль вам і не сніўся. Зразумейце, што ў СССР пачынаецца эканамічны развал. Спроба рухацца да мэты паступова, малымі крокамі заманлівая, але безвыніковая. Дай бог, каб я аказаўся дрэнным прарокам, але калі эканамічная рэформа не перастане таптацца на месцы, то за бліжэйшыя два гады ваш нацыянальны даход таксама ўпадзе працэнтаў на дваццаць. Ці трэба тлумачыць, чым гэта абернецца для ўзроўню жыцця, які і цяпер не ўражвае ўяўленне?**

**Андрэй Ослунд,**

**дырэктар Стакгольмскага інстытута эканомікі Савецкага Саюза і краін Усходняй Еўропы**

**(„Голас Радзімы", № 15/1990 г.)**

### У АМФІТЭАТРЫ ЗНОЎ ЗАГУЧЫЦЬ ПЕСНЯ

**У беластоцкім амфітэатры ад 15 да 17 чэрвеня г.г. будзе праводзіцца І Фестываль беларускай песні ў Польшчы, арганізаваны ГП БГКТ. Фінансава дапамагаюць у гэтым мерапрыемстве Аддзел культуры і мастацтва ў Беластоку, Ваяводскі дом культуры ў Беластоку, Фонд беларускай культуры ў Гродне і прадпрыемствы.**

**Мэты Фестывалю: папулярызацыя беларускай песеннай культуры і прамоцыя музычна ўздольненых выканаўцаў.**

**У Фестывалі ўдзел прымуць лаўрэаты конкурсу „Беларуская песня—90", замежныя беларускія выканаўцы і іншыя ахвотныя. Узрост удзельнікаў — больш 15 гадоў. Каб удзельнічаць у конкурсе, трэба падрыхтаваць дзве беларускія песні.**

**Фестываль праводзіцца ў дзвюх катэгорыях. Конкурс фальклорнай песні адбудзецца 15 чэрвеня, сучаснай — 16, а канцэрт лаўрэатаў — 17 чэрвеня 1990 года. Выканаўца можа выступіць толькі ў адной катэгорыі. Крытэрыі ацэнкі будуць наступныя: падбор рэпертуару, інтэрпрэтацыя, голас і мастацкія вартасці выканання.**

**Узнагароды лаўрэатам фундуюць арганізатары і спонсары. Прыезд і харчаванне выканаўцаў — на ўласны кошт. Заграмічным выканаўцам арганізатары гарантуюць закватараванне і харчаванне. Прадбачваюцца для іх дадатковыя канцэрты ў розных мясцовасцях Беласточчыны.**

**Хто хоча прыняць удзел у фестывалі, павінен прыслаць анкету ўдзельніка ў ГП БГКТ у Беластоку (вул. Варшаўская 11) — да 15 мая 1990 года. Выканаўцы, у якіх няма акампанементу, — павінны даслаць ноты песень або фанаграму.**

**Чакаем новага свята беларускай песні!** **(лук)**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 368


## НОЧ ВІЯЛЕТЫ

Віялета была жырная; ела нават бульбу з постам. Адзін раз прачнулася ад голаду і сярод ночы распаліла ў пліце ды насмажыла пляцкаў з пшанічнай мукі. Так аб'елася імі, што не магла здыхацца. Цёпла апранулася, каб прайсціся па мястэчку У скверыку гулі п'янюгі, грызліся, бы тыя паршукі на выгане, і Віялета пасунулася далей ад вулічнага святла. Зайшла яна за Антыфонавы стадолы, за якімі пачыналася балаціна ў кустоўі. І хоць баялася чорта лазатага, раптам схапіла яе злосць на мужа свайго, які ўжо каторы год не варочаўся з заробкаў у Нямеччыне. Віялета тут, у гэтай поначнай пустэчы, натужліва зразумела, што Артур пакінуў яе, бяздзетную.

Вярнуўшыся дахаты, яна кідала ў агонь усенькія яго дарункі, напрысыланыя ім у пачках. Вялізную бутэльку іспанскага віна выпіла, не адымаючы губоў, і яно пакаціла яе. Калі ачуняла, быў дзень на двары, па вокнах дзынкаў дождж з градам, а сама яна ўся калацілася ад дрыжыкаў; лоб паліла гарачка. Мела яшчэ настолькі змогі, каб давалачыся да лекара на Акопах, адкуль павезлі Віялету ў далёкі шпіталь. Пакуль пасапела даць знаць сваячцы, дабро яе павыносілі валакіты, толькі мэблю не рушылі.

Віялета выжыла, але здароўя ў яе ўжо няма. Ходзіць, як шкілет нейкі, і часта плача.

**Сакрат Яновіч**



# ЯН ЧЫКВІН

### МАНЮХ

*(Яну Максімюку, першаму перакладчыку „Уліса" на беларускую мову)*

Няма дзён. Сяйво на гібельнай восі.
Літасці меч хоча галаваньку зведаць.
Маць адпрадзе, а бацька адкосіць
І ніхто не пазнае ў ім бульбаеда.

* ✲ *

Пінь-пінь, тах-тах...
Зрабіў прыпынь зялёны птах.
Аціх, сеў насупынь
І зноў: цвіль-цвіль, пінь-пінь...
Быў міг адзін
І знік птушыль,
Ёсць вечнае: пінь-пінь,
цвіль-цвіль...

### У ЛОНДАНЕ

Ветру зялёнага рэчка,
Дзень — поўны збан медуніцы.
Па Фінчлі грабёмся на стрэчу,
Насустрач плывуць таямніцы.

Каштаны адзелі хітоны,
Стаяць ганароваю вартай.
Мы ў беларускім палоне,
Як прамоўцы ў Гайд-парку.

Пятру спавядаемся й Паўлу
З кніг скону. І кленчачы молім...
Прыгожы Усёдаравальны
Ідзі па зямной юдолі.

### ЛЕТАПІСЦЫ БЕЛАСТОКА

Летапісцы Беластока — Цыганчук, Казанэцкі
Стварылі паэтычны свет вынёсла-немы.
Як ні прасі іх — моўкнасць іхняя вялікая,
Маўклівцы вечныя змаўкаюць безгалосыя паэмы.

Мне хораша іх слухаць. Срэбнай ціншай
Гучыць іх мудрасць слоў пра нашу размаітасць,
Калі з вышынь сваіх праменна па паветры пішуць:
Vanitas vanitatum et omnia vanitas.

### ПРЫСУТНАСЦІ СЦЕЖКА
(памяці бацькі)

Мокрая сцежка ў гарод,
Па ёй віхляецца восень...
Колькі мінула дый што, як ты памёр?
Учора — што сёння, што пару гадоў!
Усё паглынае упаўшае восем.

Вужэе сцежка, дзічэе сад
І лапушыцца ў гародзе адчай...
Але не адыходзіць дух з тваіх прадметаў —
Як птушкі, пушчаныя з рук, яны фурчаць
І гукамі тваімі гутараць са светам.

### НЕАДОЛЬНАСЦЬ

Вечар вандроўны на дрэвах павіс,
Морак сабачыцца ў чэраве вуліц.
На вешалцы дзён у мой жыццяпіс
Сумненне ўпрадзе мо мысль-велямудрасць...

Імклівая існасць адслоніцца мне,
Прасветліцца розум, а гнуткія крылы
Вынясуць ў вечнае царства світання —

Але мацней працэмра закруціла матавіла,
Сплятаючы і расплятаючы прывіды-зманы...

Каменне камянела...

### АДВЕЧНЫЯ ПЫТАННІ

Што ёсць быццё? Што — чалавек? Што — Бог?
Чаму нікому нельга лёсу перайначыць?
Не адсуме смутак нашых ўсіх зямных трывог —
З вачэй злятае белы голуб плачу.

І што ёсць час — рака ці акіян?
Вытокі дзе яго? І дзе яго скрыжалі?
Смыліць бяскрылы лёт жыцця нібы павеў фіранкі —
З вачэй злятае белы анёл жалю.

А чым свабода ёсць? Для розуму, для сэрца й рук —
Цудоўны божы дар? Пыхлівы чалавечы мык?
Чаму ўсё жыццё свой камень пхаем пад гару?
Адгадкі ў свеце, мабыць, ёсць... Але не выкажа язык.

# ЛІРЫЧНАЯ ПРОЗА

* ✲ *

Стаю на крутым беразе Нараўкі, над паплаўком. Надэ мною раскошнае сонца, жаваранкі і белыя воблачкі. Плывуць паволі, амаль не плывуць. І высока, высока!..

У кустах перасвіст салаўёў ды разгублены, ці што, зязюлін сум. На кветках у траве гаспадарліва завіхаюцца пчолы. Лёгкі ветрык прыносіць пах першых пракосаў. І на душы прыемна, светла!

* ✲ *

Спякотны дзень. Жыта — раднае мноства хлеба, узнятае над зямлёй у даспелых каласах. Высока ў небе звініць нябачны жаваранак. Пагрозліва, пякуча зумкаюць, уюцца нябачныя пчолы. Час ад часу на залатой сцяблінцы застракоча зялёны конік.

А падвечар — першыя жытнія мэндлікі, ды плыве, лунае жніўная песня. Стаю заслуханы, загледжаны, зачараваны... Не знаходжу слоў, каб апісаць гэты астравок жыцця.

* ✲ *

Удзень паліць і смаліць... Падвечар сонца засланіла цёмная-цёмная хмара. Сыпануў буйны дождж і, як шабляю, яркай маланкай паласнула па гарачыні. Ураз гром страсянуў навокал долы. Быццам шматтонныя камяні пакаціліся па небасхіле. І мне стала трывожна ад тых навальнічных грымотаў ды кароткіх сполахаў маланак.

Мне стала трывожна за зямлю, за шумлівы сасновы бор, за жытні вецер у полі, за цёплую надрэчную траву. За цішу чаромхаўскіх завей. За мары, за каханне, за натхненне. За шчырыя ўсмешкі маіх сяброў.

**Янка Целушэцкі**



### ІКАР

Усё ж, чакаў і верыў, што Ікар не ўпадзе, заляціць пад Сонцам, хаця яго падзенне, як асколак, тырчала ў памяці пакаленняў. Як перасцярога, як факт, як сімвал. І сяляне Брэйгеля патупілі свае вочы ў хрыбты сваіх валоў і раллю, мараплавец заняўся толькі сваім рулём і плыў паводле нязменных зор, і воблакі плылі ў вечнакрузе ад падзямельных венаў, з жывога жывата зямлі да верхніх сфераў.

А ён паверыў ужо быў — Ікар тады, калі рэзаў птушак для пер'я на свае крылы — сам ужо ведаў.

**Міра Лукша**

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ „ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ“

Нядаўна выйшла з друку аднатомная (576 старонак) энцыклапедыя „Этнаграфія Беларусі“, у якой знаходзіцца больш 3 тысяч артыкулаў і даведак з галіны матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа ад старажытных часоў да сённяшніх дзён. Ва ўступе да яе рэдакцыйная калегія на чале з І. Шамякіным увесь змешчаны матэрыял дзеліць умоўна на: тэарэтычныя артыкулы, характарыстыку побыту і культуры, а таксама духоўнай культуры беларусаў, пытанні сям'і і этнаграфічнай навукі. Затым змешчаны кароткі нарыс аб этнаграфіі Беларусі В. Бандарчука.

Асноўны змест энцыклапедыі адкрывае слова „абарог“, а канчае „яшчур“. Апрацоўкі артыкулаў і даведак вельмі змястоўныя, цікавыя, патрэбныя не толькі прафесіяналам, але кожнаму чалавеку, які эмацыянальна хоць крыху звязаны з беларускасцю. Здаецца, што гэтае выданне можа спадабацца не толькі беларусам. Многія весткі выклікаюць нават здзіўленне: капялюш — гэта „брыль“ (с. 89), жыхары Белай Русі называліся літвінамі-**беларусцамі** (падкрэсленне — УЮ) або колькі ж танцаў мелі беларусы! Вось яны пад адной толькі літарай л: ланцуг, лезгінка, лета, лучына, люстра, лявоніха (гэты вядомы!), лянок і лянцей. Усе яны з апісаннямі.




У заканчэнні змешчана бібліяграфія, у якую ўвайшло 260 крыніц, а таксама алфавітны прадметна-іменны паказальнік.

Энцыклапедыя багата ілюстравана малюнкамі, здымкамі і чарцяжамі, якіх больш 1100, у тым ліку 360 каляровых. Яны дасканала ілюструюць і ўзбагачваюць змест апрацовак. Змешчана таксама 12 тэматычных каляровых карт, сярод якіх выключную цікавасць выклікаюць „Славяне ў VI-X ст.“

(Працяг на стар. 7)

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## ГРОШЫ

Зінка доўгі час не выходзіла замуж. Не тое, каб яе не бралі — ці таму што брыдкая, ці ўрэдная, ці бедная, але не было калі — памерла маці, і трэба было дапамагчы бацьку гадаваць малодшых. Хлопчыкі раслі добра, не хварэлі. Жыла іх жыццём, песціла, ездзіла на „вывядоўкі“. Бацька не вельмі ўмеў паказаць, як ён любіць дзяцей, асабліва дачку. Ведаў, што ўсё ў хаце будзе зроблена, гаспадарка ўпраўлена, дзеці негалодныя, чыстыя. Крыху выпіваў, не так, каб замнога, ну, як і ў іншых людзей. Грош пры ім не трымаўся, але дачцэ грошы даваў пасля зарплаты (працаваў у лесе) — трэба ж было заплаціць падаткі, купіць штось да гаспадаркі. Зінцы даваў столькі, каб хапіла на сшыткі сынам ці на абутак. Ды і нямнога трэба было, адзін насіў па другім, бо Зінка навучыла братоў ашчаднасці. Сама Зінка даношвала тое, што ўдалося ёй самой пашыць ці дастаць ад цётак.

Колік разглядаўся за якоюсь дзеўкай ці бабай, на падмогу дачцэ, дый не хацелася бегаць па чужых — вядома ж, не стары яшчэ мужчына; але дзе цяпер знойдзеш свабодную бабу! Тады, калі яшчэ было з гэтым лягчэй, не прыдбаў, а цяпер што зробіш...

Зінка навучылася ў цёткі шыць. Шыла вельмі добра — хапала адной прымеркі, а ўсё выглядала прыгожа, з шыкам, з фантазіяй. Умела запрапанаваць, дарадзіць, перашыць. Гаварылі, што лепш шыла, чым мястовыя, ды і менш брала. Абшывала ўсю гміну, нават з-за рэчкі прыязджалі абсталяваць касцюмы. Шыла і „цяжкую“ вопратку — не адно старэнькае паліто вывернула і пашыла, як новае.

Праўда, прыязджалі сваты, з гарэлкаю, з мацанкамі. І нябрыдкія хлопцы траплялiся, і нябедныя. Але дзе ж пакінеш бацькаву гаспадарку, братоў-сірот? Яшчэ трэба пачакаць пару год, каб яны сталі на ногі, а можа і бацька знойдзе сабе жонку, а тады і Зінка падумае.

Хлопец, з якім сябравала ў школе, які доўга яшчэ лісты пісаў з Прусаў, прывёз размаляваную Зоську — паказаць, згуляць вяселле; з-пад белай сукенкі тырчэў жывоцік, і бацюшка крыва спаглядаў на вяночак маладой, а Зінцы засталося толькі ўсплакнуць пад вішняй.

Гаспадарыла, шыла. Жыла. Стукнула Зінцы 35 год. Усё ж, паняй была на сваім. Збірала грошы — па грошыку, ад усяго, што ўваліла ў бацькаву гаспадарку. Гэта ж быў і яе дом, ніхто тут нічога не дзяліў на „маё“ і „тваё“. Браты павыязджалі, рэдка каторы і пісаў Зінцы. Бацька апусціўся, хаця над ім скакала, як над дзіцём.

— А для каго мне цяпер жыць? Пайду і ўтаплюся! — бурчаў п'яны бацька. — А ты, старая скура, ідзі куды-лень. Не знайшоўся на цябе ніякі аматар! Ідзі, каб я цябе не бачыў, а то людзі пальцамі поруць!

Знайшлася старэйшая ўдава, якую наралі Коліку. Золька прывяла карову. Сама ў сына не была патрэбнай — унукі ўжо былі вялікія. Колік з Золькай хутка запісаліся.

Спакавала Зінка свае манаткі, узяла швейную машыну і ашчадныя кніжкі і паехала да цёткі ў мястэчка. Праз тыдзень пазнаёмілі яе з удаўцом, яе равеснікам, бацькам 15-гадовага Валіка. Вася быў добры, спакойны. Працавіты, але няўмелы. За што ён ні браўся з найбольшай ахвотай — усё разлазілася ў яго пальцах. Зінка рашыла падняць гаспадарку Васі на ногі. Пабудавалі хлявы, прыкупілі зямлі, давялі водаправод. Паставілі мураванку. У 1970 годзе нарадзілася дачушка, Анютка. Валік вучыўся ў прафесіянальнай школе, пасля пайшоў у тэхнікум. Зінку спачатку называў цёцяй, а пасля, пакрысе — мамай. З бацькам ніколі так добра яму не гаварылася. І любіў сваю маленькую сястрычку, для якой сама Зінка мела ўсё менш часу: а то будаванне, а то поле, а то шыццё... Грошы ўвальваліся, як у прорву, — вядома, гаспадарка, але Зінка, як заўсёды, прыхавала грош: расце ж Анютка, будзе на пасаг. Не будзе дзяўчына перад замужжам, як маці, кожную залатоўку ціснуць, — дастане гатовае. А Зінка назбірала ўжо нямала: 20 мільёнаў, 25 мільёнаў...

# ПОПЕЛ І ПАМЯЦЬ

**(Працяг са стар. 1)**

завязаны. За мною мае сяброўкі. Я пабегла цераз вуліцу да тых суседзяў і, не пытаючыся, шмыганула ў іхнюю хату і схавалася там. Там, дзе жылі палякі, то не палілі, толькі беларусаў. А таксама абапал дамоў не палілі, нават калі былі беларускія, каб католікі не згарэлі. У нас у вёсцы было чатыры польскія сям'і, са „шляхты“. І тая суседка, што сказала на нас „Tak, tak, Polaki“, забегла ў хату і выгнала нас адтуль, як паршывых сабак. Я з сястрою на руках пабегла ў куток panaдворка, там у іх хвораст ці то ядловец ляжаў і таксама пярыны, што павыносілі з хаты, бо ім сказалі раней, што паліць беларусаў будуць, каб павыносілі, калі б ад пажару і іхняя хата занялася. Але і адтуль нас прагналі. І мы схаваліся ў куратніку, што стаяў побач сялібы тых суседзяў. Там мы і прабылі да рання, не выходзілі, калі яны збіраліся і крычалі „Zbiórka! Zbiórka!“, а потым пайшлі дарогаю на Свірыды.

**Успамінае Н. А. (сястра М. К.):** Я ляжала ў тым куратніку на курыным памёце ў адной кашулі. Сястра мне казала не варушыцца. Сама была ля дзвярэй. Я чула, як яна дрыжыць і трасецца. У вёсцы стралялі, я цераз пазы бачыла, што на загуменні стаялі іхнія падводы, чакалі, аж тыя ў вёсцы паб'юць людзей і папаляць. Яны збіраліся потым вельмі доўга. Уранні сястра знайшла брата Янку, і ён перанёс мяне ў клуню, якая не згарэла. Сама я ісці ўжо не магла. Тата адвёз мяне ў Свірыды да сваякоў. Вясною я вярнулася ў Зані да бабкі. Зані пасля пажару апусцелі, людзі хаваліся па іншых вёсках, доўга не варочаліся. Тата, як вярнуліся ў нядзелю ранкам, то ўбачылі, што мама згарэлі разам з хатаю, засталіся толькі самыя костачкі. Тата пазбіралі іх у палатно, збілі з дошак труну і хавалі разам з іншымі пабітымі, за вёскаю, у супольнай магіле, мы туды пойдзем, я вам пакажу. Праваслаўныя могілкі былі ў Бранску, але людзі баяліся туды ехаць і хаваць, каб там нас не пабілі. Разам у той магіле пахавалі 24 асобы. Тыя нашы сяброўкі выжылі, яны былі сёстры, але тата і маму іх забілі.

**Успамінае А. К.:** Яны прыходзілі да нас раней, перад тым, як нас спалілі, былі разоў дваццаць. Грабілі, забіралі коні, свінні, вопратку, хлеб, усё, што згледзелі. Прыходзілі ноччу, грукалі ў акно. Калі гаспадар пытаўся „Хто?“, яны казалі „Polskie Wojsko“. Мы ўжо ведалі, хто такі і чаго ім трэба. Тады мне было 19 гадоў, я быў на вёсцы, сядзеў з хлопцамі ў некага ў хаце. Па начах мы ў хатах не спалі, бо калі каго з хлопцаў зловяць, то катуюць. Мы пачулі шоргат і рыпенне падводаў. Я выйшаў на двор і бачу, што вёску акружаюць. Пытаю хлопцаў, куды ўцякаць будзем? Усе разбегліся, хто куды. Я сам пабег цераз садок у той бок, дзе лес. Але згубіў шапку і вярнуўся па яе. Тут мяне і схапілі. І вядуць па вуліцы. З адной хаты выглянуў стары, называўся ён Міхал. Яго таксама забралі і павялі са мною. Завялі нас на гасцінец, што ідзе на Свірыды, і там сказалі класціся на зямлю. Потым адзін з іх пайшоў на вёску і доўга не варочаўся. Мусіць, пытаўся ў камандзіраў, што з намі рабіць. У вёсцы чуваць была страляніна, з абодвух канцоў пачалі яе паліць. Потым той паляк, што пайшоў, вяртаецца, выцягвае пісталет і пытаецца ў Міхала: „Polak czy Białorus?“ „Białorus“ — кажа дзядзька Міхал. Той стрэліў у яго два разы. По-

Праўда, гэтыя мільёны з дня ў дзень пачалі траціць вартасць. Але, усё ж грошы — гэта грошы! Самой так многа ўжо не трэба, калі старым ужо каля 60-ці. Але маладыя патрабуюць і апрануцца, і загуляць. Праўда, Валіку ўжо стукнула 37, але якасьці жонкі не прыдбаў. А кавалер заўсёды маладзейшы, чым яго жанатыя равеснікі. Анютка хутка, у 18 год, выйшла замуж за хлопца з суседняй вёскі. Добра, што не праз суд, а то сорам быў бы (хто падумаў бы пра такое каліcь!)

У хаце стала пуста. Вася цэлымі днямі дзесьці прападаў. Калі вяртаўся падпіты, Зінка паднімала крык: мала што лянівы ды слімак, а яшчэ на старасць распіўся! Каб не Зінка, то гною тут было б па калені! А не ўшануе ні яе працы, ні часу, ні грошай! А можа дзе па бабах лазіць!? Хай лепей на сябе паглядзіць — спасся на яе харчах, што ледзь трыбух валачэ, а цвіка не мае часу ўбіць!

Валік ужо даўно хацеў купіць сабе аўтамашыну. З „таксоўкай“ хутчэй знойдзеш дзяўчыну. Усе іначай на цябе глядзяць. А так — якая сюды за яго пойдзе? Яму ўжо пад сорак, хата як хата, але ўсё ж не віла, ды і мачыха тут пані, не дасць руля ў чужыя рукі. Якая жанчына тут вытрымае? Нават Анютка як найхутчэй уцякла з-пад яе крылаў. Але якраз у маці ёсць грошы. Не толькі каса цэлае гаспадаркі, а мільёны на кніжачцы! Пасаг Анюткі. Усё ж, Анютка — яе родная дачка. На днях гэтыя грошы прападуць, трапяць у рукі толькі Анюце!

— Мам, пазычце мне 30 мільёнаў, на таксоўку. Палова таксоўкі будзе ваша і Анютчына, а палова — мая. Самаходы даражэюць кожны дзень, а пасля аказіі можа не быць!

Падумала Зінка. Праўда, што цяпер гэтыя грошы вартыя? Сорак год іх збірала, хай хоць будзе з іх карысць. Таксоўка дзецям прыдасца. І Валік як родны, а Анюце не будзе крыўдна — палавіна ж таксоўкі будзе яе?..

— Мам, калі баіцеся, спішам дагавор, колькі я ў вас пазычыў, і калі аддам...

**— Ты што, Валік! Свае ж мы людзі, сям'я, палічымся. То ж устыд такое спісваць!**

**Зінка выбрала ўсе свае ашчаднасці. Валік купіў машыну і знік.**

— Не трэба было верыць! — папракаюць Зінку суседзі. — Будзеш людзям верыць, то цябе затопчуць.

— Калі б не верыць людзям, то не трэба ўжо і жыць! — Зінка выцірае слёзы. — Я ж нічога не страціла, апрача ашчаднасці са сваіх сарака год. Сама не даела, не адзелася як чалавек, а іншым дала, грош зберагла, і што на старасць мне давялося — страціць веру ў чалавека! Што пры гэтым значаць грошы!?

**Міра Лукша**



Капліца ў Райгродзе.

Мал. У. Петрука.

*Капліца ў Райгродзе.*

*Мал. У. Петрука.*

СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

# НАВАРАЖЫЎ

Марыся ўсім гаварыла, што яна дасканалая спявачка і кіне свайго мужа.

— Мне варажбіт варажыў, — гаварыла сваёй сяброўцы Крысі, — што я паеду за граніцу спяваць і там пазнаёмлюся з багатым спеваком і не вярнуся назад.

— Ты ўжо зусім здурэла, — дакарала яе сяброўка. — Уяўляеш сябе Бог ведама чым.

— Ты мне не верыш, то хадзі да яго разам са мною. Ён зноў тое ж скажа.

Крыся згадзілася. Пайшлі вечарам, каб сям'я Крысі не ведала аб гэтым, бо зараз быў бы крык.

Варажбіт Юзаф пачаў варажыць Марысі.

— Ой! — крыкнуў ён. — Дрэнная справа. Ты хворая, муж хворы. Напэўна, вы хутка памрэце!

Крыся са смеху аж села на падлогу.

Марыся ўжо не ходзіць да варажбіта, а муж, калі больш вып'е, перадражняе яе, спяваючы: „Мотылем естэм, ооо!“

**Аўрора**

тым пытаецца пра тое самае ў мяне. Я адказваю так сама. Ён страляе ў мяне. У першую хвіліну мне падалося, што мне раскалолі галаву і выбілі мозг. Але ж не, я ляжу і думаю, значыць, я жыву і галава цэлая. Чую, як енчыць і страшна хрыпіць дзядзька Міхал. Яму, мусіць, прастрэлілі лёгкія, краем вока бачу, як ён пакутуе і звіваецца каля мяне. „Popraw temu, co się tak wije“ — кажа той, што страляў. І тады другі пусціў у дзядзьку чэргу з аўтамата. Дабіў яго. Я ляжаў да таго часу, пакуль не ўбачыў, што яны адышлі ад нас і сталі глядзець, як гарыць вёска. Я паволі адпоўз ад іх, потым прыўзняўся і кінуўся бегчы. Тады якраз пачалася моцная страляніна, я не ведаю, стралялі па мне ці, можа, у вёсцы людзей забівалі. Я ўцякаў. Я схаваўся ў акопах, што засталіся пасля немцаў, сядзеў там і прамёрз. Адчуваў, як па маім целе, пад вопраткай, сцякае кроў. Трэба было падацца недзе да людзей. Але куды пайсці? Кругом польскія вёскі. Я пайшоў у Сцёны, там былі дзве беларускія сям'і. Я пастукаў у акно, мне адчыніла бабулька. Сказаў, што я з Занёў, і што нас спалілі і пабілі. Прыйшоў гаспадар, у хаце лямпы не палілі, але ён адчуў, што нешта са мною благое. Ён стаў мяне разглядаць і ўбачыў, што з мяне цячэ кроў. Я быў ранены ў двух месцах. Адна куля прайшла праз шыю, другая трапіла ў плячо і выйшла каля локця. Ён мяне перавязаў, а ранкам павёз у Зані. На вуліцы я ўбачыў забітага бацьку Зайшоў у хату, на пасцелі ляжала мая сястра, ёй прастрэлілі грудзі. І той чалавек занёс сястру на сваю фурманку і павёз яе цераз Бранск у Бельск, у шпіталь. Там яе адратавалі. У Занях у тую ноч забілі 24 асобы. Многа паранілі. Наш сусед выносіў з хаты свайго ўнучка, да яго стралялі з аўтамата, хлопчыку было ўсяго чатыры гады, а можа і таго не, кулі яго разнеслі амаль на кавалкі, а суседу адстрэлілі абедзве рукі. Яны потым выехалі ў СССР, засталася яго дачка, жыве ў Занях да гэтай пары.

Я: *За што стралялі людзей у Занях і палілі вёску? Можа хтось з Занёў нейкага паляка забіў або выдаў бяспецы? І потым тыя з лесу прыйшлі помсціць?*

**А. К.:** Ніхто з нас нікога не выдаваў і не забіваў. Стралялі і мучылі нас за тое, што мы беларусы, што рэлігія ў нас іншая. Вам, смярдзючым беларусам, месца там, пад Масквой, а не тут, казалі яны не раз.

Вам трэба ведаць, якія ў нас тут, „на шляхце“, як людзі кажуць, палякі жывуць. Ім ксяндзы ў касцёлах казалі, што руская рэлігія Маткі Боскай не прызнае, і яны гэтаму верылі і вераць да сёння.

**Успамінае П. М.:** Заходзіць дзядзька ў нашу хату і кажа, што вёска гарыць. Я на двор, а на загуменні стаяць з карабінамі. Назад у хату! Сядзець і не выходзіць. Я ўзяў дзве мае дочкі на рукі, выйшаў з імі на двор і цераз вуліцу, подбегам, каб хутчэй у лес. За мною стралялі, куля трапіла мне ў клуб, я ўпаў з дочкамі ў баразёнку на агародзе. Аднекуль падбегла мая сястра, забрала дзяўчынкі і панесла іх за вёску. Я бачу, ляжаць мае мама на агародзе, забітая. Я падпоўз да яе, кранаю, але яна не варушыцца. Я ляжаў каля мамы не ведаю як доўга, аж чую, крычаць: „Zbiórka! Zbiórka!“ Вёска палыхае, яны ідуць вуліцай, згледзелі нас, падыходзіць адзін, падыходзіць другі: „Kurwa mać, nie ma naboi!“ Потым падыходзіць трэці з карабінам, такі каратыш, ростам можа з метр, калі ў шапцы. Ён страляе ў маму, ужо мёртвую. Потым стрэліў у мяне. І я тады, як ляжаў, то сеў адразу. Сеў і не ведаю, што са мною сталася. Ужо нічога не бачыў. Куля выбіла мне адно вока, прайшла пераноссе і выкалупнула другое. Яно, як людзі мне потым сказалі, ліпела нейкі час на адной жылцы. Яны пайшлі далей, а я астаўся сядзець там без вачэй, жывы. І ў таго каратыша не хапіла на мяне амуніцыі.

Магіла пастраляных 2 лютага 1946 года людзей у Занях метраў дзвесце за вёскай, у полі. На пачатку сямідзесятых на тым месцы паставілі мемарыяльную табліцу. Высечаны на ёй 24 прозвішчы. Найстарэйшаму з забітых 83 гады, наймалодшаму — 4. Гэта тое хлапчанё, якое ратаваў і выносіў з полымя дзед, пакуль не адстрэлілі яму рукі.

Зані спаліў адзін з атрадаў так званага Pogotowia Akcji Specjalnej (PAS), якім камандаваў „Буры“ (Ромуальд Райс). Атрад складаўся з акоўцаў, што прыйшлі на Беласточчыну з Віленшчыны, і таксама з мясцовых палякаў.

— Вы, калі ласка, не запісвайце нашых прозвішчаў у газеце, — прасілі мяне жыхары Занёў. — Мы вам расказалі ўсё, як было. Але прозвішчаў нашых не запісвайце. Жывуць нашы дзеці, нам трэба жыць. Зразумейце тое, што нас стралялі не партызаны з-за граніцы, а нашы суседзі, людзі з навакольных вёсак. Мы не хочам, каб тыя, што стралялі нас тады, помсцілі нам і цяпер. Калісьці называлі іх бандытамі, цяпер гавораць, што яны героі, бо змагаліся за вольную Польшчу.

Я запісаў гэтыя словы 17 красавіка 1990 года ў Занях, на беларускім астраўку ў Польскай Рэчыпаспалітай.

Я не адчуваю нянавісці да палякаў.

**Ян Максімюк**

„Ніва“
6.V.1990 г.

# У БССР СВЯТКУЮЦЬ ГАДАВІНУ БНР

(Працяг са стар. 1)

Як бы тое, аднак, ні было, беларускім дзеячам, што падалі заяву на мітынг, была прад'яўлена ультыматыўная адмова ад савецкіх уладаў. Тыя, у сваю чаргу, вымушаны былі выставіць умову: каб далі магчымасць абвясціць народ па тэлебачанні. І ў суботу, 24 сакавіка, увечары, Пазняк, Марачкін і Хадыка абвясцілі, што па волі ўладаў мітынгу не будзе, а 25 сакавіка кожны можа святкаваць, як хоча. Заадно дзеячы БНФ „Адраджэнне" далі грунтоўныя адказы на шэраг перадвыбарчых фальсіфікацый афіцыйнай партыйнай прэсы.

...25 сакавіка, 12 гадзін. Каля тэатральна-мастацкага зноў „заграблі" А. Пушкіна (гэта ўжо стала традыцыяй у Дзень Незалежнасці). Учора ён аб'язджаў белага каня ды дамовіўся з дзяўчынаю, каб выехаць з ёю на гэтым кані, у чым маці нарадзіла (як сімвал незалежнасці). Выйшаў, аднак, ён адзін — без каня і без дзяўчыны — са шчытом, дзе быў надпіс: „Беларусь — ад каланіяльнай да незалежнай".

Калі а палове першай сабраліся на тым месцы людзі, ужо толькі показкі хадзілі, што здарылася з А. Пушкіным.

Гаваркія беларускамоўныя купкі людзей у святочным настроі ды ў бел-чырвона-белым асяроддзі рушылі ў бок бліжэйшага парку, збіраючы на шляху тых, хто не ведаў, дзе правесці свята.

Бліжэйшы быў парк М. Горкага, але за плошчай Перамогі людзі ўбачылі бел-чырвона-белы рух ля помніка Я. Купалы. Вырашылі збочыць туды і аб'яднацца.

Надвор'е было някепскае. Плошча ля помніка песняру пераўтварылася ў тутэйшы Гайд-парк, месца сустрэч свядомых беларусаў — ох і дужа ж іх зараз: студэнты і рабочыя, журналісты ды інжынеры, дзеячы навукі і культуры. Было нямала і міліцыянтаў, але за межы свайго галоўнага абавязку — ахова парадку — яны не выходзілі, хоць многія з святкуючых неслі з сабою даволі смелыя транспаранты: „Bielaruś Sawieckaja — Bielaruś biaz buduczyni", „Vivat Alba Russia Liberta", „Жыве незалежная Беларусь" і г.д. Так, яны былі напісаныя і па-беларуску лацінкаю, і па-беларуску кірыліцай, і лацінскаю моваю ўвогуле. Сям-там можна было нават бачыць мілую зычлівую гутарку нефармалаў з міліцыянтамі.

Тым часам многія з тых, хто не ведаў пра забарону мітынгу, а 14-ай гадзіне сабраліся перад домам урада. Там міліцыя крыху ўжыла ўладу, каб вызваліць плошчу, зрэшты, даволі карэктна. Некалькі тысяч чалавек па



Усмешка Зянона Пазняка.

ходніках рушылі да скверу імя Янкі Купалы, асвятляючы вуліцы святочнай бел-чырвона-белаю сцягоў, сярод якіх былі відаць таксама жоўта-блакітныя штандары (Украіна), бела-блакітна-чорныя (Эстонія) ды г.д. Было нямала гасцей.

Каля 15-й гэты рух таксама ўліўся ў кола святкуючых ля помніка і... ў скверы імя Купалы стала цесна, амаль як у аўтобусе.

У цеснаце ды не ў крыўдзе, — кажа беларуская прымаўка.

На сцэну выходзілі паэты і журналісты, спевакі і проста прагныя выказацца людзі.

Сяржук Сокалаў-Воюш спяваў новыя песні, адну з якіх ён прысвяціў амаль свайму цёзку па прозвішчы, які назваў ворагамі перабудовы ўсіх, хто кліча людзей на мітынгі, да свядомага палітычнага жыцця. Не выпадае прывесці цудоўны твор цалкам, але хоць кавалак:

Возьмемся за рукі, ворагі народа!
Шчыльнымі шыхтамі станем перад катам.
Тыя трыццаць срэбнікаў іудавай свабоды
Мы заменім — хай адным — вольнасці дукатам.

Сэнс, мяркую, зразумелы: калі нехта шукае ворагаў, не кідайцеся дапамагаць, бо знойдуць і цябе — не ворагі, дык свае „шукальнікі".

Прыехала з Гародні Данута Бічэль-Загнетава, горача любімая паэтка мінскай моладзі. На біс прачытала яна творы з апошняй сваёй кніжкі „А на Палессі". Чыталі вершы і Анатоль Сыс, Алесь Емяльянаў, спявалі маладыя барды Андрэй Мельнікаў з Оршы, Алесь Пальніскі з Мінска ды шмат іншых.

Аўтар гэтых радкоў зачытаў свежы ліст ад Данчыка, які акурат у гэты ж дзень выступаў на гэткім жа свяце ў амерыканскім штаце Пенсільванія ды перадае шчырыя прывітанні. Прагучаў заклік да яднання ўсіх беларусаў свету, якія святкуюць гэтае дарагое нам свята

МІКОЛА ІВАНОЎ

# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

## 2.6.3. Яўрэі Беларусі

У адрозненне ад палякаў яўрэі Беларусі не належалі да карэннага насельніцтва. Масавая яўрэйская каланізацыя Беларусі пачалася ў XIV стагоддзі і працягвалася без перапынку аж да канца XVIII стагоддзя. Трэба адзначыць, што большасць мясцовага беларускага насельніцтва ўспрымала яўрэяў як чужынцаў на сваіх землях і заўсёды адносілася да іх з засцярогаю. Адносіны беларусаў да яўрэяў ніколі, аднак, не пераджаліся ў ваяўнічую варожасць, у выразны антысемітызм. Доказам праўдзівасці падобнага сцвярджэння можа паслужыць факт, што Беларусь амаль не агарнула хваля антыяўрэйскіх пагромаў пачатку нашага стагоддзя. А калі тут і назіраліся антыяўрэйскія выступленні, дык ажыццяўляліся яны не мясцовымі сіламі, а наплывовымі элементамі (царскімі войскамі, рускімі чыгуначнымі рабочымі: Беласток — 1902 г., Гомель — 1903 г.) Акалічнасць гэтая дазваляе некаторым даследчыкам сцвярджаць, што беларусы з усіх славянскіх народаў — найменш заражаная антысемітызмам нацыя.

Магчыма, што лагодныя адносіны беларусаў да яўрэяў спрычыніліся да таго, што на пачатку стагоддзя Беларусь пераўтварылася ў найбольш густа заселены яўрэямі куток нашай планеты. Паводле ўсеагульнага спісу насельніцтва з 1897 г. паказчык яўрэяў тут дасягнуў 13—14%. Усходняя Беларусь была трошкі менш густа заселена яўрэямі, але і тут іх было каля 10%.

Да рэвалюцыі Беларусь уваходзіла ў добра нам вядомую „черту оседлости", унутры якой яўрэі падлягалі асабліва жорсткай дыскрымінацыі. Царскае заканадаўства мела больш 600 антыяўрэйскіх законаў, якія значна абмяжоўвалі ўдзел яўрэйскага насельніцтва ў эканамічным, палітычным і грамадскім жыцці краіны.

Значная частка яўрэяў Беларусі з энтузіязмам успрыняла Кастрычніцкую рэвалюцыю і ўстанаўленне савецкай улады. Бальшавіцкая праграма сацыяльных пераўтварэнняў была ўспрынята як рэальная магчымасць дасягнуць раўнапраўе. Большасць яўрэйскіх левых арганізацый на чале з самім „Бундам" прыняла рашэнне аб самароспуску і ўваходзе ў склад камуністычнай партыі. Для „Бунду" за яго заслугі ў барацьбе з царызмам былі прадугледжаны нават адпаведныя прывілеі пры ўступленні. Членаў „Бунду" прымалі ў РКП(б) спіскам. Гэта прывяло да часовай перавагі яўрэяў у радах рэспубліканскай партыйнай арганізацыі У 1926 г. яўрэі складалі амаль палову членаў тагачаснай КП(б)Б. Сярод камсамольцаў рэспублікі працэнт яўрэяў быў яшчэ большы. Часткова падобнае становішча вынікала са складу гарадскога насельніцтва рэспублікі (больш 40% яўрэяў), а таксама з нацыянальнага складу рабочага класа БССР і ўзроўню палітызацыі пасобных нацыянальных груп.

Нягледзячы на актыўны ўдзел часткі яўрэйскага гарадскога насельніцтва ў дзейнасці савецкай улады, пераважная большасць яўрэяў, жыхароў так званых мястэчак (якія жылі з дробнага гандлю) апынулася ў сярэдзіне 20-х гадоў у вельмі складаным, перш за ўсё матэрыяльным становішчы. Канец нэпу прынёс ім знішчэнне адзінай іх крыніцы ўтрымання. Пачаўся працэс іх дэкласацыі і значнага збяднення. І тады, каб дапамагчы гэтай велізарнай масе мястэчковых яўрэяў, у асяроддзі яўрэйскіх камуністаў СССР нарадзіўся план масавага перасялення яўрэяў на вёску дзеля прыстасавання іх да сельскагаспадарчай працы. План гэты меў некалькі галоўных мэт. Па-першае, надзяленне яўрэяў зямлёй павінна было абвергнуць міф аб нядольнасці іх да прадукцыйнай сельскагаспадарчай працы. Па-другое, яўрэі павінны былі стаць першымі калектыўнымі гаспадарамі на вёсцы, і сваім прыкладам аблегчыць пачатак працэсу ажыццяўлення масавай прымусовай калектывізацыі. Па-трэцяе, але бадай што самае галоўнае, масавае перасяленне яўрэяў на зямлю павінна было праходзіць уплывам вельмі моцна закаранёнай у яўрэйскім асяроддзі сіяніцкай ідэалогіі „Яўрэй — вольны землярод" — гэты адзін з важнейшых ідэалагічных пастулатаў сіянізму павінен быў быць ажыццёўлены тут на месцы, а не ў далёкай Палесціне. І ініцыятарамі гэтай ідэалагічна абумоўленай кампаніі павінны былі стаць камуністычная партыя і савецкая ўлада. Вось такі даволі дзіўны шлях саветызацыі яўрэяў быў абраны ў СССР.

25 ліпеня 1925 г. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР прыняў спецыяльны дэкрэт, на падставе якога яўрэі Беларусі мелі права бясплатна атрымоўваць зямлю з дзяржаўнага зямельнага фонду нароўні з беззямельнымі сялянамі і батракамі. У адпаведнасці з гэтым дэкрэтам быў перапрацаваны рэспубліканскі зямельны кодэкс. Быў уведзены артыкул, які прадугледжваў надзяленне працоўнага яўрэйскага насельніцтва зямлёй па-за чаргой. Трэба падкрэсліць, што падобныя крокі былі зроблены таксама на Украіне і ў РСФСР. У Маскве з мэтай рэалізацыі і каардынацыі плану перасялення яўрэяў на зямлю была створана арганізацыя КАМЗЕТ (Камітэт перасялення працоўных яўрэяў на зямлю).

На восень 1924 г. на Беларусі была праведзена рэгістрацыя яўрэйскага насельніцтва, якое выказала жаданне перасяліцца на вёску і займацца сельскагаспадарчай працай. Рэгістрацыя выказала значнае зацікаўленне яўрэяў магчымасцю перасялення. Зарэгістравалася амаль 20% мястэчковага яўрэйскага насельніцтва Беларусі. У хуткім часе пачалася перасяленчая кампанія. Апрача выдзялення зямельных фондаў для яўрэйскай каланізацыі ўнутры БССР, частку перасяленцаў кіравалі ў паўднёвыя раёны Украіны, на Крым, і ад 1927 г. на Далёкі Усход, дзе з часам планавалася арганізаваць аўтаномны яўрэйскі раён. Толькі ў 1925—1926 г.г.

25 сакавіка, дзе б яны ні жылі: на Беларусі ці Беласточчыне, у Бельгіі ці Вялікабрытаніі, у ФРГ ці Францыі, у Аўстраліі ці Аргенціне, у Канадзе ці ЗША...

А калі Сяржук Сокалаў-Воюш узяў сваю новую гітару „Ямаха“ ды рэзануў штосьці вясёлае, частка публікі ўскочыла на сцэну, і пачаліся танцы.

Дарэчы, яшчэ ў пачатку, калі я стаяў перад сцэнай ля падножжа помніка, раптам адчуў радаснае ўзрушанне ўсіх прысутных. Што такое? Давялося адыйсціся ды азірнуцца: на вялізным кіі побач з самым Купалам узнімаўся гэтак жа немалы транспарант „Урад БНР“ з партрэтамі ўсіх яго сяброў — Ластоўскага і Бурбіса, Лёсіка і Цвікевіча... Усіх... Легендарныя імёны, якіх нас хацелі пазбавіць толькі з-за таго, што яны не бачылі ў бальшавіцкім шляху штосьці для роднае Беларусі. А хіба не мелі рацыі?

Многія пыталіся адзін у аднаго, ці прысутнічае на свяце Пазняк? Хутчэй так, выказвалася думка. Дык чаму ж не выступіць? На ўсе пытанні адказы знаходзіліся хутка: усе чыталі ў прэсе, які суровы ультыматум быў прад'яўлены арганізатарам мітынгу ды што іх чакала, каб тыя арганізавалі яго без санкцый уладаў.

**З нашым фотакарэспандэнтам мы ўсё ж знайшлі Зянона Пазняка сярод натоўпу людзей. Ён сапраўды не выступаў, каб не пераўтвараць народнае свята ў мітынг. Але на ягоным твары адбівалася шчаслівая ўсмешка. Упершыню яго, змагара і патрыёта, убачылі такім ды кінуліся фатаграфаваць шматлікія карэспандэнты.**



**Ад старога да малога ўсе свят кавалі.**

Усмешка Пазняка. Яе ніхто не бачыў на гэтым мужным твары нават тады, калі яго віншавалі з трыумфальнай перамогай на першых свабодных выбарах у беларускі парламент (90 працэнтаў галасоў). Але 25 сакавіка ён меў сапраўдную падставу для радасці, як і ўсе тыя, хто толькі і жыве марай аб Беларусі — вольнай маці ўсіх сваіх народаў.

Каля гадзіны 18-ай — свята перасоўваецца да помніка Максіму Багдановічу. Туды з намі ідзе ўжо і Саша Пушкін: гурт моладзі быў дэпутаваны ў акалодак, дзе трымалі маладога мастака, і дамогся яго вызвалення.

І зноў ажно да 20-й гадзіны вершы, песні, шчырыя гутаркі. Мікрафон вольны. Нейкая жанчына пусціла да яго сваё дзіця... Малеча ледзь хадзіць навучылася, але ўзяла мікрафон і як жахне сваім трапяткім голасам: „Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломy“... Ды яшчэ нешта беларускае...

Спытаеце, як можа такое дзіця (гады 3—4) „жахнуць“? А паглядзелі б вы, як адвіслі сківі ў гэтак званых „гарадскіх зявак“. Ім не дзіўна было чуць беларускую мову ад паэтаў, артыстаў — тым жа за гэта грошы плацяць. А дзіця? А яго маці? Вось тут і стала соромна тым, хто толькі і шукае тлумачэнняў сваёй бездухоўнасці ва ўяўнай карыслівасці іншых.

І Сокалаў-Воюш усіх таксама ўразіў. Не толькі моладзь. Чамусьці да мяне звярнуўся нейкі дзядуля з мазолістымі рукамі ды абветраным тварам: дзе можна перапісаць словы песень Сяржука? Адно, што я мог параіць, гэта пашукаць кніжку маладога паэта з гітарай — „Кроў на сумётах“. Праўда, папярэдзіў, што хоць яна толькі што выйшла, але ў Мінску ўжо шукаць няма сэнсу — раскуплена імгненна. Як, нават на беларускай мове? — А вы што думалі!

**Што ні кажы, а мы адраджаемся. Вяртаем мову, успамінаем гісторыю, хоць пырскаюць яшчэ нам у вочы белымі плямамі, схаванымі ў спецсховішчах. Мы ўжо памятаем, як стваралася ды як знішчалі нашую незалежнасць. Мы святкуем яе, каб вярнуць. І мы вернем яе.**

**Вітаўт Мартыненка**

Фота Алеся Крыштаповіча

---

на Беларусі зямлю атрымалі 6.066 яўрэяў. Ім было выдзелена больш 16 тыс. га ворнай зямлі. Знамянальна, што пераважная большасць яўрэйскіх перасяленцаў адразу прыступіла да калектыўных форм землегаспадарання. У 1928 г. (напярэдадні пачатку працэсу прымусовай масавай калектывізацыі) палова ўсіх калгасаў Беларусі былі яўрэйскімі. Звычайна ўжо ў першым — другім годзе сваёй дзейнасці яўрэйскія калгасы дасягалі выразных поспехаў. Праўдападобна, што гэтыя дасягненні яўрэйскіх калгасаў адыгралі ролю своеасаблівага каталізатара ў працэсе прыняцця Сталіным рашэння аб прымусовай калектывізацыі.

Усяго ў міжваенны перыяд на зямлю перасялілася каля 10% яўрэйскага насельніцтва Беларусі (48.225 чалавек). Перасяленне адбывалася нават у 1938 г. Прычына падобнай паслядоўнасці савецкай палітыкі ў адносінах да яўрэяў заключалася ў тым, што амаль палова сродкаў на яўрэйскую каланізацыю паходзіла з замежных крыніц. Галоўным чынам дапамагала вядомая амерыканская яўрэйская арганізацыя „Джойнт“ (Штогод выдзялялася каля 2 млн. доляраў). Арганізацыя дапамогі яўрэйскай каланізацыі ў СССР была створана нават у Палесціне, у Тэль-Авіве. На тэрыторыі будучай дзяржавы Ізраіль пачалася вярбоўка мясцовых сіяністаў у рады савецкіх калгаснікаў І трэба прызнаць, што не без поспеху.

Міжваенная гісторыя савецкага яўрэйства мае ўнікальны характар. Яўрэі былі адной з нешматлікіх пазбаўленых сваёй нацыянальнай тэрыторыі нацыянальных меншасцяў, якіх не толькі не сустрэлі масавыя рэпрэсіі на нацыянальнай глебе, але нацыянальная аўтаномія якіх развівалася без сур'ёзных праблем. У 1936—1938 г.г. Сталін ліквідаваў нацыянальна-культурную аўтаномію палякаў, фінаў, чэхаў і іншых народаў, якія мелі за мяжой уласныя незалежныя нацыянальныя дзяржавы. Яўрэйская ж аўтаномная вобласць на Далёкім Усходзе, хаця і не такімі хуткімі тэмпамі, як пачаткова, але развівалася. У чым жа прычына гэтай своеасаблівай прывілеі яўрэяў? Мы далёкія ад таго, каб агулам характарызаваць Кастрычніцкую рэвалюцыю і характар савецкай улады як яўрэйскія, а камуністычную партыю як прыдатак сусветнай масонска-яўрэйскай змовы, як гэта робяць сёння дзеячы добра вядомай „Памяти“. Хутчэй за ўсё Сталін проста не мог адмовіцца ад замежных яўрэйскіх сродкаў, якія выдзяляліся на яўрэйскую каланізацыю ў СССР, і частку якіх можна было выдаваць на іншыя мэты. Сталінскае кіраўніцтва СССР таксама спадзявалася, што яўрэі стануць той сілай, якая дапаможа асвоіць дзікія ўсходнія тэрыторыі краіны. Яўрэяў не чапалі, пакуль яны былі патрэбныя. Сталін даў выраз свайму антысемітызму пасля вайны, калі па яго асабістай ініцыятыве ў краіне сіламі НКВД быў справакаваны жудасны яўрэйскі пагром, у віры якога загінула лепшая частка яўрэйскай савецкай інтэлігенцыі. Планаванаму на 1953 год масаваму высяленню яўрэяў на Далёкі Усход перашкодзіла толькі смерць дыктатара.

*(Працяг будзе)*

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ „ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ“

**(Працяг са стар. 4)**

(с. 467), „Межы рассялення беларусаў“ (с. 549), „Групоўка гаворак на тэрыторыі Беларусі“ (с. 188) і іншыя. На жаль, большасць завужана да тэрыторыі БССР, але мае пашыраныя назвы і ўводзіць мала вопытнага чытача ў зман. Асабліва невыбачальная памылка — гэта назва „Гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны (19 — пач. 20 стагоддзя)“ с. 152, калі БССР не існавала або мела іншыя граніцы.

Ва ўступе і індэксе на апошняй старонцы адзначаецца, што выданне „разлічана на выкладчыкаў і студэнтаў гуманітарных факультэтаў ВНУ, настаўнікаў сярэдніх школ, этнографаў, краязнаўцаў і ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа“. Хочацца дадаць: для бібліятэк, чытальняў, клубаў, можа стаць падарункам з нагоды розных святаў нароўні з турыстычнымі альбомамі. Беларусь ахоплена плынямі не толькі перабудовы, але і адраджэння на базе традыцый. Народу чужыя панаццы гістарычнай дзяржаўнасці, лепшых і горшых каралёў ці магнатаў. Яго спалучае народнасць і праца: самаробныя вырабы, абрады, песні, арнаменты. Выхад энцыклапедыі быў аказіяй стварыць яе адным з элементаў адраджэння, асабліва для тых, хто дрэнна чытае па-беларуску і не карыстаецца літаратурай.

Бяда ў тым, што тыраж энцыклапедыі толькі 20 тысяч экземпляраў. Толькі для бібліятэк, клубаў, сярэдніх школ, ВНУ, творчых аб'яднанняў у БССР патрэбна больш 60 тысяч экземпляраў, а ёсць яшчэ людзі, зацікаўленыя этнаграфіяй Беларусі, па ўсёй Расіі і за мяжой.

Нічога не ўспамінаецца ў энцыклапедыі аб тым, што зроблена ў галіне этнаграфіі на Беласточчыне Беларускім грамадска-культурным таварыствам, „Нівай“ і многімі іншымі замежнымі ўстановамі, арганізацыямі, выдавецтвамі, а таксама паасобнымі ахвярнымі сімпатыкамі беларускасці.

І ўсё ж складальнікам энцыклапедыі і выдаўцам шчыра дзякуем.

**У. Юзвюк**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Артысты дзіцячага беларускага тэатра з Гданьска. З імі апякункі Анна Іванюк і Алена Глагоўская.

Фота Я. Чэрнякевіч.

# АДДАЙ ТОЕ, ШТО ДОМА НЕ ПАКІНУЎ

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

(Пачатак у папярэдніх нумарах)

Лёг Янка на мяккую пасцель і заснуў як забіты. А Кася выйшла на ганак, махнула прутком... І адразу з'явіліся да яе трыццаць хлапцоў-малайцоў...

— Што загадаеш, паненка?

— Збудуйце за ноч такі палац, каб было ў ім гэтулькі пакояў, колькі дзён у годзе, каб столь ззяла, як неба, а на ёй свяцілі сонца, месяц і зоры, каб вакол палаца працякала рака, а на ёй ляжаў мост — залатая маснічына, сярэбраная маснічына, каб над мастом вісела вясёлка і ўпіралася канцамі ў ваду..

— Добра, — адказалі малайцы і памчаліся рабіць сваю работу.

Адзін пілуе, другі сячэ, трэці стружа — кіпіць работа!

Выйшаў назаўтра Янка на двор, бачыць — стаіць новы палац, дахам неба падпірае. Над палацам вясёлка зіхаціць, пад ракою сярэбрана-залаты мост блішчыць.

Увайшоў ён у палац, глянуў угору, траха не аслеп: сонца ззяе, месяц свеціць, зоркі бліщчаць...

Стаў Янка на мосце, чакае пана.

Выйшаў пан, залюбаваўся новым палацам.

— Ну, — кажа да Янкі, — бачу, штукар ты не горшы за мяне. Што ж, нічога не скажаш, калі толькі сам усё гэта зрабіў...

— Сам, — кажа Янка. — А хто ж мне рабіў?

— Добра, калі сам. Пастараўся, але ж нікому — сабе. Ды пакуль вяселле спраўляць, дам табе яшчэ адну работу. Ёсць у мяне конь, цаны яму няма, ды вось бяда: неаб'езджаны. Аб'ездзі ты яго да вяселля...

Янка павесялеў:

— Добра, пане, заўтра аб'езджу.

А сам сабе думае: „Ну, гэта работа для мяне самая лёгкая!"

Тым часам выйшла і мачыха са сваімі дочкамі паглядзець новы палац. Спадабаўся ён ім. А як даведалася, што бацька дэкляраваў аддаць адну з дачок замуж за такога слаўнага майстра, дык усе, як адна, захацелі быць яго жонкаю.

Пагаварыў Янка з панам ды пайшоў сабе, пасвістваючы, да Касі. Прыйшоў і хваліцца, што хутка яна стане яго жонкаю: цяпер ужо бацька даў работу па яго сіле!

— Не, — кажа яму Кася, — не радуйся загадзя. Ты думаеш, бацька дасць табе простага каня? Не такі ён добранькі! Гэта будзе ён сам, а не конь. Бацька, бачыш, не верыць, што ты адзін вычарпаў возера і пабудаваў палац. Вось ён і захацеў цябе праверыць.

Пачухаў Янка за вухам:

— Дык што ж мне рабіць? Як яго, чорта, аб'ездзіць?

— Не турбуйся раней часу. Кладзіся спаць. Заўтра відней будзе, — супакоіла Кася Янку.

Назаўтра пабудзіла Кася Янку.

— Ідзі, — кажа, — каня аб'язджаць, калі згадзіўся.

— Баюся, — гнецца Янка. — Настрашыла ты мяне гэтым канём...

— Нічога. Адзін ты яму рады не дасі, а ўдваіх дамо.

І Кася падала яму свой жалезны пруток.

— На, — кажа, — з ім ты не прападзеш. Як толькі конь пачне наравіцца — лупі яго з усяе сілы гэтым прутком між вушэй.

Прыйшоў Янка ў стайню. Стаіць там конь у яблыкі: вочы крывёю наліты, з ноздраў полымя шугае, з вушэй дым валіць — падступіцца нельга!

Падыйшоў Янка да каня, хацеў на спіну яму ўскочыць, а той дубка стаў, пад столь узвіўся і так заржаў, што ўся стайня закалацілася.

— Эге, — кажа Янка, — такі і праўда — чартоўскі ты конь! Добра ж. Маю на цябе лякобу!

Падкраўся ён да каня збоку і хвасянуў яго прутком між вушэй. Конь адразу, як сноп, на калені ўпаў. Янка тым часам скок на яго! Конь зноў дубка ўзвіўся — чуць не скінуў Янку. Ды Янка злаўчыўся і давай з усяе сілы хвастаць яго прутком між вушэй.

(Праця́г на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

### МАЦІ І СЫН

Кажа маці: — Мой сынок,
Ты не спіш, нібы знарок!
— Чуеш, мама, ля ракі!
Яшчэ лётаюць шпакі,
А ля лужын блізкіх
Яшчэ скачуць пліскі.
Стала цёмна, ціха ў хаце,
Заспявала песню маці:
— Пайшоў кот у дулі
Ў парванай кашулі,
Клаў ён грушы у падол,
Грушы падалі на дол,
Наракае кот на лёс,
Груш малому не прынёс.
Стала цёмна ля акон,
Да малога крочыць сон.
Дзеткі ўсе паснулі...
Люлі, люлі, люлі...
Ластаўчыны дзеці
Спяць даўно ў павеці.
Нацягнулі зоркі
Хмары, нібы шторкі,
І яны заснулі...
Люлі, люлі, люлі.
Маці хіліцца да сына.
І яна ж заснуць павінна.

### ГАЛОДНАЯ ЛІСА

Круціцца ліса ў пасцелі,
Куры, гусі сняцца,
Дрэвы над нарой шумелі,
Змусілі падняцца.

Гэта ж ранак. Лось бушуе,
Гне нагой ляшчыну,
А зязюля ўжо кукуе,
Сеўшы на рабіну.

Курапатка на сасонцы
Дзюбку грэе ў пёрках.
Смела выглянула сонца
Ранкам з-за пагорка.

Ліса крочыць воўчым следам,
Хочацца пад'есці,
Можа знойдзецца аб'едак
На ваўчыным месцы.

На алешыне варона
З лісіцы смяецца:
— Дзе ж не адвечны гонар,
За аб'едкам прэцца?

### КАЧАНЁ

Плавала па лужыне
Качанё надужае,
Лапкамі дзівоснымі
Шастала як вёсламі.
А пасля нырнула,
Нібы патанула,
Курку напалохала,
Тая ў крык, завохкала:
— Ой, малое, кволае,
Ты ж амаль што голае.
Там як лёд вадзіца,
Можна прастудзіцца.
Качанё смяецца:
— Гэта ж вам здаецца.
Не глядзіце з горыччу,
Мне тут нават горача.

